Прахапіўся і ўспомніў, што там даўно ўжо развіднела, над хатамі гайдаюцца белыя слупкі дыму, а наўкол — такія сінія снягі. Аля з Таняю спяшаюцца ў школу. Хто ж ім праб'е ў сумётах сцежку?.. Калі зноў будзем разам? І расла трывога: «Куды еду, дзе прыхіну галаву, каму я патрэбен?»

За акном шарэла світанне. На адхонах сям-там яшчэ ляжалі лапікі пачарнелага снегу. Відаць, будзе ранняя вясна. Што яна мне прынясе? Адлігу ці зноў сцюжу?

Замільгалі назвы беларускіх станцый. Ад хвалявання хадзіў і хадзіў па праходзе вагона — думаў, строіў планы то светлыя, то змрочныя. Але колькі ні плануй, жыццё ўсё вырашае па-свойму і нечакана выносіць зусім на іншы бераг.

Вынесла яно і мяне ў свет, пра які я і не адважваўся марыць.

Я пражыў доўгае, складанае, пакутнае і цікавае жыццё, аж не верыцца, што ўсё пераўжытае было са мною. А было, і нічога забыць нельга. Я дзяліў горкую долю свайго народа і шчаслівы, што цяпер магу паспавядацца за сябе і сваіх незваротных сяброў.

*Красавік 1987 — сакавік 1988 гг.*